# КАНАДЫЙСКІЯ НАВІНЫ

## УРАЧЫСТАСЬЦІ АДКРЫЦЬЦЯ РАТУШЫ



Траха двухмільённы горад Таронта быў цэнтрам увагі паўночнаамэрыканскага кантынэнту з нагоды ўрачыстага адкрыцьця новай, характэрнай для гораду формай, ратушы 13-18 верасьня сёлета.

Таронцкая ратуша (гл. фотаздымак) збудаваная паводля конкурснага праекту фінскага архітэктара Вільё Рэвэля, выбранага з 520-ёх усіх праектаў, прысланых з 42 краёў. Кошт будынку абыйшоўся звыш 31 мільёна даляраў.

Урачыстае адкрыцьцё ратушы адбылося ў нядзелю 13 верасьня з удзелам Гэнэрал-Губэрнатара Джорджа Ваньe й Прэм'ер-Міністра Л. Пірсана пры 2.500 запрошаных гасьцей (ад Беларусаў быў запрошаны сп. Р. Беразоўскі). Далейшыя ўрачыстасьці працягваліся праз увесь тыдзень з артыстычнымі й мастацкімі выступленьнямі, канцэртамі й парадамі. У пятніцу 17 верасьня была паўтораная праграма этнічных групаў з Нацыянальнай Выстаўкі (Беларусы, нажаль, адсутнічалі й тут). Наагул урачыстасьці прайшлі зь нябывалым уздымам, а жыхары Таронта атрымалі манумэнтальную памятку - падарунак. Падчас урачыстасьцяў прадаваліся мэдалі з бронзы, серабра й золата, як каштоўныя сувэніры.

**А.-іч**

## ДА ЎСІХ БЕЛАРУСАЎ КАНАДЫ

**Адміністратар „Беларуса" ў Канадзе зьвяртаецца да Вас усіх з просьбай падтрымліваць грашова й надалей месячнымі складкамі, ахвярамі, падпіскай, абвесткамі й інш. наш дадатак „Канадыйскія Навіны".**

**Пры гэтай нагодзе выказваю шчырую падзяку ўсім тым, што падтрымлівалі наш ранейшы дадатак „Весткі з Канады", просячы адначасна фінансава памагаць „Канадыйскім Навінам".**

**Таксама просьба й аб прысыланьні матарыялаў да друку на адрыс Адміністратара „К. Н.."**

**Mr. A. Markevich**
**127 Dovercourt Road**
**Toronto 3, Ont.**

## ІНШЫ СТАРШЫНЯ АДДЗЕЛУ ЗБК

Як апошнім часам высьвятлілася, у супрацьлегласьць нашай ранейшай інфармацыі, старшынём Таронцкага Аддзелу ЗБК зьяўляецца сп. Г. Барановіч, а не, як паведамлялася не з нашай віны, сп. В. Касьцюкевіч. Як ведама, старшыні Аддзелаў аўтаматычна ўваходзяць у склад Галоўнай Управы ЗБК.

## ПІКНІК ЛЁНДАНЦАЎ

На пікнік Лёнданцаў, што адбыўся ў нядзелю 22 жнівеня на дзялянцы сп-ва Шустаў над возерам Юрон, зьехаліся Беларусы ня толькі зь Лёндану, але й Таронта, Дэтройту ды іншых мясцовасьцяў. Пікнік прайшоў у мілай сямейнай атмасфэры. Увесь даход зь пікніку быў і гэты год пераказаны парахвіі Сьв. Кірылы Тураўскага ў Таронта.

## ПІКНІК У КАЛАДЗЕЙСКІХ

Першы сёлетні Дзень Працы (Лейбар Дэй) быў адпаведны для няпершага ўжо пікніку на фарме сп-ва Каладзейскіх пад Алістонам, куды ўжо ў сыботу нанач прыбыло шмат Беларусаў, а ў нядзелю даехала яшчэ больш.

У нядзелю зраньня прат. а. Міхаіл адслужыў палёвае набажэнства, пасьля чаго ўсе зыбраліся за супольным абедам, які добра прыгатавалі як сама гаспадыня, так і сп-ні Н. Барановіч, М. Ганько ды іншыя. Вечарам сп. Лішчонак з Ашавы граў вясёлыя мэлёдыі да позьнае ночы. І толькі ў панядзелак па абедзе ўсе разьехаліся дамоў, падзякаваўшы гаспадаром за гасьціннасьць. Паважны даход зь пікніку быў прызначаны на парахвіяльныя патрэбы ў Таронта.

## АРЫЕНТАЦЫЙНЫ МІТЫНГ

Як паведамлялася раней, Таронцкі Мэтрапалітальны Міжнародны Інстытут меў пэрсанальныя зьмены, і новы Дырэктар Службаў сп. Робэрт Крэм праяўляе шмат ініцыятывы дзеля актывізацыі дзейнасьці Інстытуту ўва ўсіх дзялянках супрацоўніцтва зь іншымі ўстановамі й арганізацыямі.

З мэтаю актывізацыі ягонай дзейнасьці й ахапленьня шырэйшых колаў як Канадыйцаў, гэтак і Новаканадыйцаў, 16 верасьня быў скліканы Арыентацыйны Мітынг прадстаўнікоў розных арганізацыяў і прэсы ўлучна з этнічнымі. Ад Беларусаў прыймаў удзел у Мітынгу сп. А. Маркевіч.

## ЛІСТ З ПАДЗЯКАЮ

На рукі адміністратара „Беларуса" ў Таронта надыйшоў з Канадыйскага Нацыянальнага Музэю ліст наступнага зьместу:

„Даражэнькі Спадар Маркевіч. Вялікае дзякуй за прысланыя мне кніжкі пра беларускую культуру й музыку. Яны будуць мне вялікай дапамогай на будучыню пры пляnaваньні шмат якіх дасьледваньняў. Нашыя дасьледваньні шматлікіх канадыйскіх культураў бесьперапынна працягваюцца. Мы плянуем і далей зьбіраць матарыялы для выстаўкі „Музыка й Традыцыі ад Акіяну да Акіяну".

Мне было вельмі прыемна даведацца, што Вы абяцаеце дапамагчы мне сабраць некалькі беларускіх сьпевакоў і музыкаў дзеля найграньня іхных выкананьняў на стужку. Я абавязкава скантактуюся з Вамі перад маёй чарговай візытай у Таронта й скарыстаю з нагоды спаткацца з Вамі асабіста. З пашанаю Ваш Кэннэт Пікок".

## ПЯТАЯ ГАДАВАЯ КАНФЭРЭНЦЫЯ

Сёлетняя, 5-ая з чаргі, гадавая канфэрэнцыя Канадыйскай Рады Стагодзьдзя адбылася ў залях гатэлю Рояль Ёрк у Таронта 8-10 верасьня, на якой галоўнай тэмай была справа падрыхтаваньня да адзначэньня сотых угодкаў Канфэдэрацыі Канады. Да гэтай Рады належыць і Згуртаваньне Беларусаў Канады.

На гэтай канфэрэнцыі ЗБК прадстаўляў д-р В. Жук, які меў нагоду выступіць з прамовай у справе пляnaў Рады што да этнічных групаў.

## БУДАЎНІКІ НАЦЫІ 65

Этнічныя групы, зарганізаваныя пры Радзе Народных Мастацтваў, ужо трэйці год выступаюць із сваімі мастацкімі праграмамі на вялізарнай сцэне Грандстэнду на заканчэньне Канадыйскай Нацыянальнай Выстаўкі ў Таронта. У сёлетнім выступленьні прыймала ўдзел звыш 22 этнічных групаў з агульнай колькасьцяй удзельнікаў 1.500 асобаў.

Хаця Рада Народных Мастацтваў, да якой намінальна належаць і дзьве нашыя групы, ужо ня першы раз афіцыйна запрашае да ўдзелу ў праграме й Беларусаў, але, на вялікі жаль, мы не здабыліся дагэтуль хоць-бы на адно выступленьне. Усе-ж магчымасьці да гэтага ёсьць, апрача патрэбнай ініцыятывы.

## ГАДАВАЯ КАНВЭНЦЫЯ МАКЕДОНЦАЎ

У пачатку верасьня сёлета адбывалася ў Таронта гадавая Канвэнцыя Македонскай Патрыятычнай Арганізацыі ў ЗША й Канадзе. Гэтая арганізацыя зьяўляецца аднэй з найстарэйшых на амэрыканскім кантынэньце із сялібай у Індыянаполіс, дзе ад 39 год выдаецца ейны прэсавы ворган „Македонская Трыбуна". Мэтай арганізацыі ёсьць зьвярнуць увагу вольнага сьвету на імкненьні Македонцаў мець сваю вольную незалежную дзяржаву. Запрошанае на Канвэнцыю Згуртаваньне Беларусаў Канады выслала пісьмовае прывітаньне.

## ЗАСНАВАНЬНЕ ЖАНОЦКАЙ АРГАНІЗАЦЫІ

Дзень 29 жнівеня сёлета астанецца для беларускіх жанчынаў Таронта важнай датаю. У гэты дзень жанчыны Канады заснавалі першую собскую жаноцкую арганізацыю — Згуртаваньне Беларускіх Жанчын пры ЗБК і Прыходзе Св. Кірілы Тураўскага з часовай управай у скадзе: сп-няў Раісы Жук, Ольгі Грыцук, Л. Кулеш. На іхную долю выпала й заданьне апрацаваць праект статуту й прадставіць яго на наступным жаноцкім сходзе.

Сход распачала сп-ня Н. Барановіч уступнай прамовай, затым сп-ня Р. Жук выступіла з даўжэйшай прамовай аб патрэбе й важнасьці собскай жаноцкай арганізацыі. Пры гэтай нагодзе сход адзначыў заслугі бацькоў Марты й Пятра Слаўкаў за іхную ранейшую працу.

Пасьля сходу адбылася сяброўская гарбатка. Сход закончыўся багаслаўленьнем а. Міхаіла й адсьпяваньнем беларускага нацыянальнага гімну.

## СПРАВА БЕЛАРУСКАГА ЦЭНТРУ АДПАЧЫНКУ

Зь ініцыятывы некалькіх Беларусаў у Таронта адбыўся ў нядзелю 19 верасьня ў залі БР-ГЦ ініцыятыўны сход дзеля набыцьця беларускага цэнтру адпачынку ў Канадзе. Сход прадыскутаваў магчымасьці набыцьця такога цэнтру на зусім прыватных асновах. Дзеля гэтай мэты ў бліжэйшым часе мае быць заснаваная карпарацыйная супалка пры ўзносе кажнага зацікаўленага прыблізна па 200-250 даляраў, усё-ж далейшае будзе асноўвацца на паёх (шэрах) намінальнай вартасьці па 100 дал.

На сходзе быў выбраны Кантактны Камітэт у складзе 7-ёх асобаў (сп. сп. Кухарчык, Навіцкі, Ганько, Шапараў, Беразоўскі, Складкоўскі, Пітушка), які мае апрацаваць статут і зьвязацца з адпаведнымі ўладамі дзеля юрыдычнага афармленьня БЦА.

# СЁЕ—ТОЕ

Нашы нутраныя справы ёсьць важныя. Ды нутраное жыцьцё беларускае эміграцыі можа як па масьле йсьці, а гэта яшчэ нічога ня дасьць для пашырэньня добрага імя Беларусаў у вольным сьвеце. Надта-ж пільна сачыць трэба, каб, дзе толькі мага, паказацца ў добрым сьвятле вонках свае грамады, людзей зь беларускай культурай і вызвольнай справай, калі льга, пазнаёміць. А ўжо ніяк нельга рукой махнуць ды ня прысутнічаць там, дзе іншыя, такія-ж прадстаўнікі, як і мы, братоў паняволеных, выступаюць дружнай грамадой. Тымчасам...

Цэлы тыдзень ад 12 да 18-га верасьня сёлета сьвяткавалі людзі адкрыцьцё таронцкае ратушы. Кажны вечар перад ратушай адбываліся розныя культурнага характару праграмы. Людзей прысутных бывала больш за 25 тысяч. У пятніцу 17-га верасьня быў вечар „Будаўнікоў Нацыі". Між большых народаў выступала й такая дробязь, як Славакі, Славэнцы, Лятувісы, Латышы й інш., адно ня было Беларусаў. Чаму?

Даведваемся, што ня лепшыя ёсьць відокі на рэпрэзэнтацыю Беларусаў Канады й наагул беларускае культуры на Сусьветнай выстаўцы, што адчыніцца на другое лета ў Монтрэалі.

***

У сваёй перадавіцы за 14-га верасьня сёлета „Літаратура і Мастацтва" разглядае справу аховы гістарычных помнікаў у Беларусі. Пра новастворaны арганізацыйны камітэт г. зв. „добраахвотнага Таварыства аховы помнікаў гісторыі й культуры" ды праблемы, зьвязаныя з гэтай аховай, гаварыў у інтэрвью з карэспандэнтам газэты старшыня камітэту акадэмік Цімафей Гарбуноў.

„Яшчэ нядаўна, — гаварыў ён — мы былі сьведкамі, як скарачаліся сьпісы помнікаў, узятых пад ахову дзяржавы, як зачыняліся асобныя краязнаўчыя музэі. ЦК партыі цяпер паправіў становішча. Але вельмі многае яшчэ трэба зрабіць. І добра, што за гэту справу бярэцца ня толькі дзяржава, але грамадзкасьць.

Мне заўсёды балюча было бачыць, як з-за недагляду гінуць часам каштоўныя помнікі мінулага. Тры гады назад у Віцебску гарадзкія ўлады дабіліся выключэньня са сьпісу помнікаў, узятых пад ахову дзяржавы, царквы Благавешчаньня — помніка архітэктуры XII-га веку, сучасьніцы „Слова аб палку Ігаравым". Знайшліся ў „вышэйшых інстанцыях" людзі, якія санкцыянавалі гэту просьбу. Царква была разбурана. А літаральна праз тры месяцы руіны былі ўзяты дзяржавай... пад ахову. У Магілеве зьнесьлі сабор XVII-га стагодзьдзя разам з будынкам былога кадэцкага корпусу, што абышлося дзяржаве ў 350 тысяч рублёў — больш, чым каштавала-б рэстаўрацыя помніка. Я не кажу ўжо аб тым, у якім стане знаходзяцца цяпер некаторыя помнікі мінулага, напрыклад, славутая „Сафійка" ў Полацку.

Нездарма (сорамна й гаварыць) вядомыя чэхаславацкія падарожнікі Зыгмунд і Ганзелька, калі ў іх пасьля наведаньня нашай краіны спыталі, што іх асабліва ўразіла ў нас, пачалі гаварыць пра нашу непавагу да помнікаў мінулага."

Далей даведваемся, што „ўсю сваю работу Таварыства будзе весьці на ўласныя сродкі, безь дзяржаўнай датацыі, у самай цеснай сувязі з ворганамі дзяржаўнай аховы помнікаў мінулага, з правам уваходзіць са сваімі прапановамі ў гэтыя ворганы."

„У рэспубліцы выяўлена ўжо каля 2.300 помнікаў, якія раскрываюць шматвяковую гісторыю беларускага народу, пачынаючы ад Кіеўскай Русі. Мы маем каля ста помнікаў архітэктуры, пятнаццаць зь якіх маюць усесаюзнае значэньне. На тэрыторыі рэспублікі выяўлена каля 10 тысяч археалёгічных помнікаў — паселішчаў, гарадзішчаў, курганоў, пры раскопваньні якіх адкрываюцца новыя старонкі мінулага. Звыш трохсот зь іх прынята пад ахову дзяржавы. Ужо адны гэтыя лічбы сьветчаць, што Беларусь мае багатую гісторыю, якой кажны Беларус мае права ганарыцца."

Наапошку Гарбуноў гаварыў аб папулярызацыі помнікаў між народу, ды іншых мерапрыемствах. Няма сумлеву, дый пра гэта заўсёды гавораць, што найбольш увагі й сяродкаў прысьвеціцца ахове помнікаў, каторыя зьвязаны із пагвалчаньнем беларускага народу бязбожнай антынароднай камуністычнай уладай. Найперш Ленін, Дзяржынскі ды іншыя каты й свае вырадкі, а ўжо дзесь на шэранькім кончыку й на „Сафійку" зірнуць.

Дзесь памолатыя на дробязь ляжаць у фундаманьце Полацкага нафтаапрацоўчага гіганта Барысавы камені з-над Дзьвіны, дзесь у Віцебску ў агарожы „пад аховай" тлеюць руіны царквы Благавешчаньня. Гэткія вось раны якія й народу загаіць ніколі ня ўдасца (старога й разбуранага ня зьлепіш назад), чырвонай маскоўскай каростай абсыпалі зьнямоґанае цела нашай Бацькаўшчыны. Цяпер-жа бяруцца ахоўваць. Калі народ возьмецца, дык мо што й будзе. А ад уладаў чаго спадзявацца? Добра, што не перашкаджаюць. Як тая прыказка кажа: зь ліхога сабакі і клок шэрсьці добра.

Напрыканцы вышэйзгаданага інтэрвью Гарбуноў заклікае: „Карыстаючыся выпадкам, хачу паведаміць адрас аргкамітэту, на які можна дасылаць свае прапановы й пажаданьні: г. Менск, Ленінскі праспэкт, 25-а, Дзяржаўны Музэй БССР."

Спадзяёмся, што Гарбуноў ды ягоныя супрацоўнікі возьмуць і нашыя прапановы й пажаданьні пад увагу, таму вось гэтта выказваем іх: зрабіце дакладны сьпіс із характарыстыкамі тых помнікаў, каторыя бязбожная бальшавіцкая антынародная ўлада зьнішчыла за пэрыяд акупацыі Беларусі Маскалямі. Падайце прозьвішчы людзей, адказных за гэныя варварскія ўчынкі. Гэных зь іх, каторыя жывуць, старайцеся аддаць на народны (запраўдны вольны народны) суд.

Гэткае мерапрыемства, калі зробіце яго, запраўды паможа Вам у працы, заб'е адразу двух пажаданых зайцаў: пакарае маскоўскіх і сваіх злачынцаў ды драматычна разрэклямуе важнасьць і цэннасьць гістарычных помнікаў Беларусі. Тады й сяброў і грошы ў Таварысьцьве вашым будзе, хоць заваліся...

***

Гаварыў кагадзе адзін з нашых нябедненькіх дзядзькоў, калі ў яго ахвяру на газэту прасілі:

— І на „Беларуса" давай, і на „Зьніч" давай, і на „Сяўбіт" давай, і на „Бацькаўшчыну" давай. Дзе гэта ўсім вам надаешся? Выплацілі-б во грамадзкі будынак, гэта самае найважнейшае. Мы ня ёсьць багачы, каб на газэты раськідацца. Няхай яны тамака ў Амэрыцы багацейшыя, а чаго нам...

Калі-б вышэйпрыгаданы дзядзька даў падпіску на ўсе ім вышэйзгаданыя газэты й часапісы, што выходзяць „рады ў гады", дык гэта злажыла-б адну шостую процанта ягонага заработку. Але, пакінем гэта на баку, як і тое, што дзядзька, каторы божыцца, што ён патрыёта, часам нячытаныя газэты ў сьмяцьцё выкідае. Зусім шкодная лёгіка такога развbooжаньня: мы во хатку сваю выплачваць будзем, а газэты нам ні па кішэні. Няхай за нас Маскалі, Палякі й іншыя палітыку робяць і газэты выдаюць, мы й іхныя прачытаем.

Ціж ня грэх? Чыталі-ж чужое раней, дык дзіва, што сяньня так працэнтова многа ў нас нацыянальных і маральных калекаў. Ды й ці мала нашых чытаюць чужое й сяньня, а на сваё дык мізэрнай крошкі шкадуюць. Запраўды, Дзядзька (зь вялікай літары), як табе ня сорамна такое вярзіць? Дый пры людзёх яшчэ!...

**Міхась Козыр**

## ЯШЧЭ ПРА БЕЛАРУСКУЮ СЭКЦЫЮ БІБЛІЯТЭКІ

Шмат разоў абвяшчаліся ў прэсе звароты й камунікаты да беларускага грамадзтва Таронта й ваколіцаў карыстаць зь беларускіх кніжак, якія набыла Таронцкая Публічная Бібліятэка для аддзелу іншамоўных літаратур пры вуліцы Квін Вэст. Дзеля таго, што ня было дастатковага зацікаўленьня беларускімі кніжкамі, дык кіраўніцтва Бібліятэкі зьліквідавала беларускі стэнд на галоўным паверху. Усе беларускія кніжкі апынуліся, як непатрэбныя, у склепе. Нам-жа Беларусам сорам, што мы дапусьцілі да гэтага.

**А—іч**

